# ФРАНТАВЫ ДЗЁННІК

Пры арганізацыі партызанскага атрада мне было загадана камандзірам нашай брыгады Мікалаем Калістратавічам Вайцяхоўскім весці дзённік. Я тады з паперай дзяліцца думкамі і перажываннямі не ўмеў. Запісваў, бытта пад прымусам, неакуратна ды бессістэмна (часта заносіў на паперу звычайныя глупствы, а больш важнае чамусьці — не). Аднак і ў такім выглядзе дзённік нешта варты: у ім — подых падзей, што сталі ўжо гісторыяй. А для мяне слаба разборлівыя, накрэмзаныя простым алоўвачкам нататкі на трафейнай паперы — першая спроба пяра.

У любы час партызанскія запіскі маглі трапіць у лапы гітлераўцам, таму многія імёны і тэрміны я пісаў пад псеўда-німамі, фразы недагаворваў, з-за чаго цяжка цяпер гэты рэбус чытаць (пісаў яшчэ яго на дыялекце сваёй вёскі), таму ён зараз можа быць толькі цікавы спецыялістам (арыгінал знаходзіцца ў парт-архіве ЦК КПБ, у асабовых справах нашай брыгады, ЦПА, ф. 36, вопіс 1, справа 20).

Пасля трапіў я на фронт і працягваў дзённік, бо адчуў у гэтым смак. Пасля першага і другога раненняў у шпіталях (агу-лам праляжаў 8 месяцаў) я меў шмат часу, запіскі свае дапоўніў з памяці, а канспірацыі не захоўваў, таму атрымаліся яны больш чытабельныя. У юбілейны год — 40-годдзе з дня вызвалення Беларусі ад акупантаў — прапаную іх чытачу.

*Аўтар*

***Франтавы дзённік наводчыка 76 м/м гарматы, 756 стралковага палка, 150 Ідрыцкай дывізіі 3-й ударнай арміі 1-га Беларускага фронту.***

19.XI.44г. З Бабруйскага запаснога палка вязуць нас на Захад. Спыніліся ў Баранавічах. На станцыі – эшалоны перасяленцаў з той часткі Беласточчыны, якая адыходзіць да Польшчы. Беларусы перасяляюцца на Усход. Кожнай сям’і выдалі цэлы пяцідзесяцітонны вагон, і мужыкі заладавалі іх грунтоўна.

Мае бацькі перасяляліся напэўна не так. Гаспадарку немцы зліквідавалі. Усё нашае багацце сусед недзе перавёз у Ваўкавыск на адной фурманцы. Ад Страшава да яго – 50 кіламетраў. Мая вёска ад граніцы ўсяго кіламетраў шэсць.

Крыўдна. Няўжо ўсё так і застанецца?

20.XI.44г. Цэлы дзень стаім у Брэсце. Шчапаем сухія шпалы і ў кацялках гатуем гарохавы канцэнтрат. Цяпло. Свеціць сонца. Пра нямецкія самалёты ўсе і забыліся…

І тут эшалоны з беларусамі-перасяленцамі. Гэтыя з украінскім акцэнтам. Дзяўчаты з салдатамі какетнічаюць, дурэюць, вішчаць. Перасяленкі дачок ад нас адганяюць…

21.XI.44. Цэнтральная плошча. Лес пад Мінскам Мазавецкім. Са станцыі прыбылі пехатою. Дзе спаць? Гэта не ў партызанах, дзе кожны быў сабе галава, – дысцыпліна! Спалі пад голым небам на снезе. Я – з Яфімам Паасам у абдымку. Абодва перамерзлі да касцявога мозгу, а мо і больш.

Раніцой з’явіліся вярбоўшчыкі. Каго ўзялі ў разведку, каго – у сувязь. Яфіма – у мінамётную роту.

Камандзір разведкі нашай дывізіі[1] Герой Савецкага Саюза капітан Бойчанка, выбраў мяне ў свой узвод – валодаю нямецкай мовай. Але зараз жа Бойчанка[2] даведаўся, што я быў у канцлагеры Штутгоф, і перадумаў. Старшыня-артылерыст са смешным прозвіш-чам – Задняявуліца – павёў мяне ў палкавую батарэю.

29.XI.44г. Я ўжо каторы дзень – наводчык 76 м/м

гарматы.

15.XII.44г. З раніцы да вечара прападаем на вучэннях. Сумны занятак. Капай «агнявыя», маскіруй «палкавушку» (так называецца мая гармата), хавай снарады. Толькі акуратна ўсё зробіш, акопчыкі заліжаш, замаскіруеш і: «Падаць перадкі! Гармату на іншую пазіцыю, бяго-ом!» Коні «палкавушку» адным дыхам прыпруць у другое месца, а там – усё спачатку.

Хутчэй бы на фронт. Адзіная забава – фокусы ў час начной пераклічкі ды – апавяданні бывалых батарэйцаў пра жудасныя баі ў Латвіі, адкуль прыбыў наш полк (у батарэі засталося адно восем чалавек з сарака). Сёння на пераклічцы быў мой чарод прыдумаць фокус. І я прыдумаў. Пастроілі батарэйцаў. Пасля праверкі, інструктажу старшыня спытаўся:

– Пытанні ёсць?

– Ё-осць! – крычу.

– Што ў вас, баец, слухаю!

– Таварыш старшына, чаму ваша прозвішча – Задняявуліца, а не – Пярэдняя?

– Адставіць! – не павёў і брывом маленькі энергічны вайсковец.

– Ра-азыдзі-ісь!

Старшыня, здаецца, не пакрыўдзіўся, але мне няёмка. Каторы раз пераконваю сябе ў душы, што хохмы – не мой хлеб. Лепш было сваю чаргу прапусціць, ды пасля размовы з капітанам Бойчанкам адчуваю ў сабе комплекс непаўнацэннасці. Здаецца, пра выпадак усе ў батарэі ўжо ведаюць, хаджу як падмочаны, лаўлю сябе на тым, што стараюся да хлопцаў паддабрыцца.

Цьфу! Як агідна!...

Перад сном пачаліся ўспаміны – дакладна, бы ў партазанскім лагеры Гута-Міхаліны. Тут нават зямлянкі

такія ж вялізныя – кожная на чалавек пятнаццаць.

Выяўляецца, батарэйцы-ветэраны перажылі за нас куды больш. У партызанах мэты мы сабе выбіралі паводле сваіх магчымасцей, немцам шкодзілі з-за вугла ці – ноччу, а набліжалася небяспека – манеўравалі... А на фронце – ты ўвесь час на віду і не можаш праявіць такой самадзейнасці – выконвай загад, ды годзе.

17.1.45г. Фронт рушыў праз Варшаву. Мы тупаем у другім эшалоне. На Вісле, каля ўзарванага моста Кербедзя, – пераправа. У мяне такое ўражанне, што сапёры ў канфедэратках (польская частка!), стоячы па грудзі ў ледзяной плыні, насціл пераправы трымаюць для нас на плячах. Каб палякам не было так цяжка, мы імкнемся нават крочыць асцярожна, стрымліваем і коней...

Узабраўся на кручу берага і толькі цяпер спахопліваюся – разблыталася абмотка! На хаду, заразу, не паправіш, трэба да нечага прыткнуцца. Размініравалі нам толькі вузкую дарожку, не надта збочыш з яе – страшна. Наперадзе лысее даўзёрны цагляны парог, абмыты дажджамі. Кірую туды.

Лысы парог аказваецца агромністым фундаментам. Покуль на ім прыводжу да парадку сваю нагу, аднекуль з’яўляецца паручнік Войска Польскага з фотаапаратам і шчоўкае мяне так і гэтак. Я надта разгубіўся, але паляк тлумачыць, што справа не ўва мне. Сяджу на гістарычным муры. Усяго столькі засталося ад славутага Каралеўскага замка, пра які шмат ведаю са школы. Немцы спалілі ды разабралі яго сцены яшчэ ў 1939-м...

Варшава – адны абгарэлыя шкілеты будынкаў. Падобнае ўжо бачыў летам у Мінску, калі прабіраўся праз яго ў Лошыцу здаваць справаздачу аб дзейнасці атрада. Толькі абгарэлыя шкілеты будынкаў тут іншыя па архітэктуры, а вуліцы месцамі выкладзеныя гранітнымі кубікамі – як у Вільні ці Гародні.

Нідзе – ні душы. Сёння на світанні ды яшчэ ўчора

нашыя прарвалі нямецкія пазіцыі на поўнач і поўдзень ад польскай сталіцы. Гітлераўцы перад намі так драпанулі, што не чуваць нават ужо і артылерыі. Самалёты сёння не лятаюць: суцэльныя нізкія хмары. Рухаемся без ніякіх перашкод. Але няма за што зачапіць і вокам: усё панылыя куксы мураванак, руіны і пустэча.

Толькі к вечару, калі пачалі выбірацца з горада, паказаліся крыху цалейшыя дамы і домікі. З’явіліся першыя цывільныя варшавяне з клункамі, а на абочыне – нямецкія трупы.

15.11.45г. Заходняя Польшча.

Больш за тыдзень наш полк валачэцца ў трэцім эшалоне па мокрым асфальце. З шэрага нізкага неба ўвесь час лепіць снег з дажджом – «польская зіма», як ахрысцілі хлопцы. Зрэдку наперадзе чуваць глухія стрэлы першага эшалона. Злева і справа ад шашы – сумныя і аднастайныя будынкі з чырвонай цэглы, пакрытыя маркоўнага колеру дахоўкай. Прасмярдзелыя, каторы дзень не прасушаныя шынялі. Прамоклы на рагожу брызент з жывымі азерцамі вады на гарматах. Вазы з мінамётамі. Усё заляпанае гразззю. Пясок скрыпіць на восях фурманак, адчуваецца за шыяй, скрыпіць на зубах...

Гармата мая сунецца першай. Наперадзе перастаўляе крывыя ногі Разбек - маўклівы татарын у туга заціснутым рэменем кажусе. Ён – камандзір маёй гарматы, у батарэі з першых дзён. За Разбекам абыякава шлэпаюць тупымі падковамі па мокрым асфальце дзве пары шыракагрудых біцюгоў. Кіруе першай парай пажылы вусаты дзядзька-беларус па прозвішчы Гайдук. Калі дзядзька крочыць па зямлі, здаецца апранутым у жаночую сукенку, аж гэтак яго шынель кароткі (хлопцы смяюцца, што шынель у дзядзькі Гайдука – якраз, задоўгі ён сам!).

Другая пара коней ідзе сама. Ездавы чуваш – худзенькі салдацік з ямачкамі воспы на твары – тупае са мной і дэманструе фокус: ідучы з левага боку, ухітраецца

падскочыць ды левай нагой здзяліць мяне ў плечы так, што ледзь не валюся. Чуваш – другі ветэран у маім разліку.

Ззаду нас – маладзенькі і пуцалаваты, зусім яшчэ хлопчык, нават з пульхнымі ружовымі вуснамі і шчочкамі, Хілько. З ім амаль такі ж юны, з доўгай і несфармаванай шыяй, толькі на цэлую галаву вышэйшы за сябра, Ісаеў. Гэты стараецца паўтарыць прыём чуваша, але як ні скача, фокус у яго не выходзіць. Нарэшце, Ісаеў выцягваецца на ўсю даўжыню на мокрым, поўным конскага памёту асфальце, ад чаго ўсміхнуўся нават мой зараджальшчык Дубаў (той увесь час з ваўкаватай паныласцю трымаўся ззаду).

Высокі артылерыст, ратуючыся ад ног наступнай запрэжкі, паспеў толькі ўзняцца на ногі, як нас агарнула адчуванне: нешта здарылася. Я паўзіраўся наперад.

Галава калоны якраз уваходзіла ў сасновы лес. Справа і злева – якіясьці плакаты.

«Г Е Р М А Н І Я!!!» – электрычнай іскрай пранеслася раптам па калоне.

Вось табе і тое самае логава.

Адразу некуды падзелася стомленасць. Пераcталі горбіцца, ажывіліся пехацінцы і артылерысты. Выцягнулі шыі ездавыя мінамётнай батарэі. Ля маёй гарматы вестку кожны прыняў па-свойму.

Разбек працягваў гэтак жа ўпэўнена крочыць, толькі фігура яго стала больш падцягнутай.

Дзядзька Гайдук, абхапіўшы нажышчамі запараныя бакі біцюга, навастрыў вусы, увабраў галаву ў плечы – бытта падрыхта-ваўся скакаць.

Ажывіўся нават панылы Дубаў.

Заблішчэў жывымі вочкамі круглы тварык Хілько: яго бацькоў у Гомелі немцы жыўём спалілі ў школе.

Яшчэ больш выцягнуў шыю Ісаеў...

Усе ажывіліся ад ўзрушанасці. Настрой людзей перадаўся коням – біцюгі бадзёра замахалі галовамі ў такт кроку. Здавалася, уся калона паўтарала адно: «Дзе ж яна, гэтая самая, паганая?!»

Але зараз жа агарнула ўсіх расчараванне. Уцягнуўшыся ў лес, полк кіламетр за кіламетрам ішоў праз манатонны масіў акуратных сосен і елак.

– Уй, каб не лес! Уй, калі б не лес! – бегаючы ад гарматы да коней і назад, бурчэў Хілько.

– А што, «каб не лес»? – пытаюся.

– Так я ж бы іх, гадаў, я-а ж бы і-іх!!

– Ну, ну?

– Ат, што ты разуме-еш?! – расчаравана кідае хлапец у размоклым кажусе.

Столькі ў яго было злосці. Шчасце тваё, Германія, што на сваім шляху выставіла зялёны заслон, – нездабраваць бы табе ад нашага Хілько.

15.11.45. Ноччу.

Нямецкі гарадок Флатау. Чуваць, як недзе ідзе перастрэлка. Страляюць за горадам. У ахутаных цемрай будынках – мёртвая цішыня і спакой. На ўскраіне пажар, і цемра ў цені паміж дамамі здаецца яшчэ гусцейшай. Да безупыннага дажджу са снегам за пару тыдняў прызвычаіліся. Перастаём заўважаць.

Адчэплены ад перадкоў і выстраены ўздоўж тратуара нашыя «палкавушкі». На другім баку вуліцы расцягнуты ў радочак «саракапяткі». Артылерысты адпачываюць у бліжэйшым доме. Кухар на падворку, асветлены іскрамі, дзьме ў печ паходнай кухні, кляне ды бэсціць мокрыя дровы. Ля гарматнага парка на пасту – Хілько. Праз дваццаць мінут мне яго мяняць, няма сэнсу класціся спаць. Але ж чым заняцца?

Калі добра ўгледзецца ў вулічную цемру, можна пазнаць Ісаева. Аднекуль вывалак веласіпед і паказвае вартавому. Хілько шчупае веласіпед, хваліць:

– Харо-ошая машына! – хоць, напэўна, яму нічога не відаць. Са шкадаваннем дабаўляе: – Цёмна, халера!

– Цё-омна! – згаджаецца Ісаеў. – От, каб відна, пакаталіся б!

Праз некалькі хвілін віла багатага гітлераўца выстрэльвае ў неба вулкан агню і дыму, ярка выдзяляючы прыгожыя калоны і ўсё багацце сваёй архітэктуры...

Цяпло агню ўжо даходзіць і да гармат. Хілько, не спускаючы вачэй з «палкавушак», як мага бліжэй падыходзіць да полымя, падстаўляе плечы з мокрым кажухом да агню, грэецца і пакрэктвае ад прыемнасці. Перад ім, па асветленым асфальце, круціць няўмела васьмёрку Ісаеў.

Перапалоханы пажарам, выбягае сонны наш камбат – капітан Кучэрын Іван Пятровіч. Пытаецца:

– Што такое?

– А – во! – паказвае Ісаеў.

Прыкінуўшы на вока, што агонь ад гармат метраў за семдзесят, ветру няма, а ўсё навокал – прамоклае, Кучэрын супакойваецца. Адно бурчыць:

– Нейкая зараза, мабыць, сумысна падпаліла! Расстраляў бы такога гада, каб ведаў хто!

– І расстраляць такога мала, таварыш капітан! – крычыць паставы «саракапятчык».

Кучэрын няўпэўнена тупае ў пад’езд.

Спаць не хочацца. Дзіва што. Столькі марыў аб гэтай самай Германіі ды во, нарэшце, дабраўся да яе. IIроста не верыцца – такое здарылася! Нават дзіўлюся: чаму

падзея прынята намі так звычайна?!

Вырашаю заглянуць у пусты дом: цікава, як жылі тыя, што прынеслі нам столькі бяды. Ісці на варту так і не даводзіцца: Дубаў, недарэка, за нешта адхапіў нечарговы нарад і замест мяне цяпер замяніў Хілько.

Крочу ўздоўж асветленых пажарам дамоў, выбіраю будынак. З параднага адчыняю асцярожна дзверы, уваходжу ў прыхожую, затым – у пакой.

Скрозь вялізныя вокны з шаўковымі гардзінамі яскравае зарыва асвятляе перакуленую мяккую мэблю, кіпы кніжак, часопісаў, перамешаных з парцэлянай. Гэта – славутая саксонская парцэляна? Не ведаю, а спытацца няма ў каго. Усё перасыпана пухам з выпатрашаных пярын. Нагой зграбаю паперы ў кучу, чакаю, покуль уляжацца пух, ды пачынаю паперкі разглядваць.

Нядрэнна афармленыя каляровымі здымкамі нямецкія часо-пісы. Кнігі і ноты. Цэлыя кіпы нот.

У масіўным пазалочаным пераплёце – пераклады Л. Талстога 1880 г. выдання. Рускія часопісы 1873 года выпуску...

«Ого, калі вы пачалі намі цікавіцца!» – паспяваю падумаць ды чую ў суседнім пакоі грукат.

Асцярожна прыадчыняю дзверы, прыглядваюся.

У чысценькім пакойчыку, перад адчыненай шафай, тырчаць Хілько з Ісаевым – увайшлі дзвярамі, мабыць, ад кухні. Хілько двума пальцамі трымае тоненькую сурвэтку, яна ў бляску пажару мяняецца рознымі колерамі, і Хілько глядзіць у захапленні. Выцягнуты твар Ісаева ўсміхаецца палатніне ўмілена – і яму, беднаму, успамінаецца, мабыць, родны дом.

«Слухай, Ісай! Наматаць бы на баннік ды пачысціць гарматны ствол – любата-а!» – грубавата кажа Хілько, відаць, хаваючы гэтак перад таварышам сваю маладушнасць.

Толькі цяпер за хлопцамі бачу ў прыадчыненых дзвярах – самую сапраўдную тоўстую немку. З-за кабеты выглядвае непрыгожая фізіяномія дзяўчыны. Выразна відаць: немка баіцца за сябе, за дачку і за дабро. Каб звярнуць увагу, кашляе.

Калісьці у нас дома стаяў слоік з мёдам на лякарства. Аднаго разу мама заспела, калі брат засадзіў у яго руку і разгублена застагнаў. Дакладна гэтаксама прамычэлі цяпер і хлопцы:

«Э-э-эк!..» Хвіліна разгубленасці. Затым Хілько бярэ нос у жменю і бытта смаркаецца. Яшчэ і тлумачыць: «Мы – о!»

«Оу-у, я-а, я-а-а!» – здагадваецца немка. Вывалаквае з ніжняй шуфляды цэлы плік насовак, падае. – «Віттэ шэйн!» – «О-о, гу-ут, данкі!» – радуюцца артылерысты, дзеляць падарунак ды, як вінаватыя хлапчукі, шпарка тупаюць з пакоя. «Геро-оі!» – выходзячы таксама, папракаю я хлопцаў у душы, а нейкая цяплынь залівае мне грудзі. – А шчэ і гразіліся: «Эх, каб не лес! Эх, каб не лес!..»

16.11.45г.

Паспаць не давялося. Вяртаюся з «экскурсіі», а батарэя ўжо строіцца – камбат ледзь не падлавіў, што я кудысьці знік. Недзе прарваліся немцы.

Праз хвіліну, абвешаныя соннымі артылерыстамі, нашыя кароткаствольныя імкліва ляцяць цераз пусты і змрочны горад. Толькі з-пад гумовых колаў страляюць пырскі ды ляскочуць жалезам перадкі. За горадам батарая крута заварочвае цераз нейкія купіны і парожкі ў кусты.

Усю дарогу я ляжаў на лафеце, абдымаючы яго халодную сталь. Гармата, вядома, падскоквала і здорава набіла мне бараду, грудзі і калені. На мне няма жывога месца – усё баліць і ные.

Толькі саскочыўшы з лафета, зразумеў: купіны – магілы,

а парогі – нізкая агароджа з чыгуну. Мы – на могілках.

Гарматы закопваем у момант.

Дзе праціўнік? Чорт яго ведае. Спераду – страляюць. Ззаду заліваюцца кулямёты. Справа і злева – успышкі і выбухі. Чутно: сакавітая руская лаянка пераплятаецца з гартаннай – нямецкай. На долю секунды ўспышкі адсоўваюць цемру, але паспяваю разгледзець толькі чарнату глебы.

То праціўнік быў далёка, за сотню кіламетраў, то раптам...

Кучэрына няма. Камандзірам гармат няма ад каго даведацца пра абстаноўку.

Напружанне пануе з гадзіну, затым хлопцы прызвычайваюцца. Супакойваюся і я. Метраў праз восем ад маёй агнявой маячыць капліца. Адчыняю ў яе дзверы, асвятляю ліхтарыкам.

Памяшканне сухое, абвешана іконамі.

«Адкуль яны тут? –дзіўлюся. –Немцы ж –пратэстанты!»

Ліхтарык асвятляе васковы тварык груднога дзіцяці. Цельца загорнута ў вышываны ручнік...

Трупік закладваю за ікону, клічу хлопцаў. Пачынаем масціцца на начлег. Усе здаволеныя: ах, пашанцавала.

Як мала трэба чалавеку для шчасця!

Толькі ўсе выгодна ўладкаваліся на цвёрдым, але сухім катафаліку, толькі Дубаў і Хілько пачалі смачна храпці, а ўжо ўлятае пасыльны ад Кучэрына з загадам здымацца зноў.

І вось узбаламучаныя стралянінай коні пруць нас што ёсць духу па мокрым асфальце ўжо праз лес, а спакойнае яго дыханне хіліць на сон. К д’яблу гэтую вайну, к д’яблу ўсё на свеце! Невыносна хочацца спаць, спаць, спаць і спаць. З шаснаццатага студзеня каторая

ноч – на нагах і на нагах...

З шашы заварочваем у гушчар. Праскакаўшы метраў з дзвесце па карэннях, мая гармата спыняецца на просецы. Пяхоту пакінулі чамусьці ззаду нас: чаму так?

Адводзяць коней. Акопваемся.

«Якога д’ябла вынесла нас гэтак далёка ад перадкоў?» – трывожуся не на жарты.

«Начальства ведае, што робіць. Яно газеты чытае, радыё слухае і чай п’е, – іранізуе Ісаеў. – Наша справа салдацкая – выконвай загад, і кропка!»

Пра загад ён мае рацыю. Дзе камандзір гарматы? Няўжо Разбек застаўся ў Флатау?

Пачынае памалу днець. Начная цемра паступова растварaецца, і ўжо бачыш камлі асобных сосен. Мокры, набрынялы дажджом тоўсты слой моху і кастрыцы, як магнітам, цягне нырнуць у пухкую пярыну ды храпануць на ўсю моц, а там – няхай будзе, што сабе хоча, нават – няхай свет валіцца.

Толькі цяпер заўважаю: там-сям валяюцца нямецкія трупы – вынік начнога бою. Вось якую мы чулі страляніну! Мёртвыя, абвешаныя кацялкамі ў суконных футаралах, з поўнымі ранцамі, ляжаць покатам, шырока раскінуўшы рукі-ногі, іншыя – галавой уніз, абхапіўшы рукамі і нагамі зямлю.

Афіцэрская школа са Шнайдэмюля.

Прарваўшыся цераз кола блакады, немцы зрабілі двухсоткіла-метровы рэйд па нашых тылах, а тут захацелі прасачыцца да сваіх у крэпасць Кольберт. Натыкнуўшыся на нашыя другі і трэці эшалоны, недавучаныя афіцэры пайшлі ў лабавую атаку ды былі ноччу адкінуты назад. Зараз збіраліся недзе ў гушчары перад маёй гарматай.

Пяхота як залягла на грэбені шашы, так і ляжала там – чамусьці да нас перакідваць яе не спяшаюцца.

Камандзіра гарматы ўсё няма, даводзіцца выконваць яго абавязкі мне.

Загадваю Дубаву і Хілько – па левы, Ісаеву па правы бок акапацца ды заняць абарону фронтам у глыбіню лесу. Страляць з гарматы буду адзін. На ўсялякі выпадак ад забітых немцаў звалакаю з добры дзесятак вінтовак, кладу іх каля сябе, як дровы.

Толькі закончыў з вінтоўкамі, заўважаю: уперадзе падазроны рух. Наводжу панараму і праз павелічальнае шкло выразна бачу: па прасецы ў наш бок зусім сабе спакойна тупае пара немчыкаў, і гэтаксама спакойна салдаты размаўляюць з тымі, хто крочыць лесам, але мне іх з-за дрэў не відаць. Загадваю сам сабе з хваляваннем: «Ну, давай!»

Заганяю ўказённік асколачны, даводжу крыжавіну ў панараме да жывых фігурак, тузаю спуск.

Бу-ум!

Немцаў на прасецы – бытта і не было.

Ліха на яго, па роўнай, як страла, прасецы відаць далёка, па ёй не падпушчу нікога і блізка, але ж злева і справа – сцяна густога лесу, праз гушчар да нас можна падысці ўпрытык ды пабраць усіх голымі рукамі. Што прыдумаць?

Азіраюся на закапаных па вушы хлоцаў.

Хілько бесклапотна дзеліць на чатыры часткі нямецкія галеты. А Ісаеў спакойна, бытта нічога не здарылася, ломіць на порцыі ды першаму прапануе Дубаву. Здаецца, толькі ў мяне ад хвалявання дробненька пастукваюць зубы, а самы звычайны страх забівае дыханне.

Раптам Хілько ўскоквае на ўвесь рост ды выхоплівае гранату. Хлапец пры гэтым усхвалявана і здзіўлена крычыць:

«А во –ён!.. Туды глядзі–во-о!..»

Толькі мяне ўжо не цікавіць гушчар, дзе – і так ведаю – падкрадваюцца немцы. З жахам гляджу на спіну хлапца. Шынель мой правільны зняў, капаючы ровік, і цяпер з плячэй яго новай фуфайкі, як коркі, вылятаюць камячкі ваты з ірванай палатнінай, пакідаючы аж надта вядомыя кожнаму франтавіку шырокія дзіркі ў месцах, дзе з цела пуцалаватага салдата вырываліся кулі.

Перада мной стаяў яшчэ жывы сябра, грудзі якога прашыла навылёт кулямётная чарга.

Раптоўная страляніна ўзарвала лес. Калі я павярнуў гармату ўбок, куды толькі што намерваўся мой правільны кінуць «эфку», Хілько мёртвым камячком ляжаў ужо на дне ячэйкі. Але мне не да яго. Між сосен мільгаюць немцы, і па іх страляю. Асколачны снарад, зачапіўшыся за галіну, разрываецца зусім блізка, ледзь не паражае і нас.

Не страляць жа фугаснымі па жывой цэлі! Што рабіць? Нікога і не запытаеш.

Хапаю вінтоўку ды выстрэльваю па немцах усю абойму. Ладаваць магазін няма калі. Першую вінтоўку шпурляю ды хапаю наступную.

«На прасецы – «фердынанд»!» – лямантуе Ісаеў.

Гляджу ўдалячынь.

Сапраўды. З паўкіламетра ад мяне памалу, задраўшы высока хобат гарматы, паўзе ў наш бок самаходка такога ж колеру, што і лес, і абсалютна з ім зліваецца. Адразу забываю пра перабежкі немцаў у гушчары. Хапаю ручкі павароту, ліхаманкава кручу гарматны ствол на галоўную небяспеку.

Першы мой снарад дае толькі ўспышку на брані самаходкі.

Ладую казённік ужо раз за разам. Пасылаю пяць снарадаў, ды ўсе яны выбухаюць таксама на брані і – хоць бы які рэзультат! За гэты час сталёвая аграмадзіна прыкметна прыблізілася і вырасла ў аб’ёме.

Трэба шарахнуць ёй па гусеніцах.

Апускаю ствол ніжэй, старанна даводжу крыжык панарамы, страляю зноў і зноў. За дванаццатым разам гармату нешта заклініла. А самаходка няўмольна да мяне ўсё сунецца, бытта нічога і не адбылося. Яна ж нас вось-вось раздушыць, што прыдумаць?!.

Ужо да «фердынанда» крокаў з сорак. Перад сталёвай крэпасцю мы зусім бездапаможныя, бо супрацьтанкавых гранат не маем, але нейкая зацятасць не дазваляе мне ўцякаць – тырчу за шчытком сам і не даю каманды хлопцам.

Нарэшце, бачу: наводчык самаходкі зрабіў ласку ды мяне заўважыў. Доўгі хобат гарматы з чорным жаралом ствала з тоўстым надульнікам памалу пачынае рухацца ў мой бок, сваім страшным жаралом заглядвае мне ў душу, на секунду замірае, затым плюе агнём.

... Мінула, мабыць, некалькі хвілін.

Я кленчу ўсё на тым самым месцы, праціраю кулакамі засыпаныя пяском ад выбуху вочы і дзіўлюся: здаецца, жывы?!. Няўжо?!. Ты!!. А дзе мая гармата? То – была, а то – няма!

Азіраюся ды пазнаю «палкавушку» зводдаль ад сябе. Па-грахатаная, уціснутая гусеніцамі ў рыхлы лясны чарназём. Перад лі-ніяй пяхоты ля грэбеня шашы дыміць усімі шчылінамі «фердынанд»...

Паволі пачынаю разбірацца, што здарылася.

Я выстраліў шмат снарадаў, і пры аддачы сашнік гарматы здорава загнала ў зямлю. Калі ж пад маім ствалом выбухнуў снарад ад «фердынанда», «палкавушку» на лафеце з укопаным у зямлю сашнікам, як на рычагу, перакуліла ў мяне над галавой назад, мяне нават не крануўшы. Толькі аглушыла на хвіліну. Гарматныя шчыткі засцераглі мяне ад выбуховай хвалі і ад асколкаў.

Ну і пашанцавала!

Толькі цяпер спахопліваюся: чамусьці чужая левая рука. Успамінаю: у разгар страляніны з майго пляча нешта адарвалася, бытта ўспырхнула адтуль птушачка. Прыглядваюся да таго месца.

Пад левым пагонам у шынялі – ірваная дзірка. Свабодна ўлазіць кулак. Суну туды пальцы. Яны натыкаюцца на цёплае і жывое мяса, носам чую свежую рану.

Куля развярнула мускулы на плячы.

Цяпер заўважаю: чамусьці няма адной палы. Ніз майго новенькага шыняля (які я так бярог!) з правага боку бытта хто адрэзаў брытвай, і не проста, а мудрагелістымі зігзагамі.

Неўзабаве Ісаеў, Дубаў і я, усе параненыя, пакінуўшы цела Хілько і раструшчаную «палкавушку», валачомся да пяхоты. Пад сасной на шашы натыкаемся на Разбека.

Яшчэ ноччу камбат паслаў майго камандзіра гарматы да нас, каб вярнуць «палкавушку» за грэбень асфальту, да пяхоты, але бедны Разбек да нас не дайшоў. Былы камандзір гарматы зараз у набрынялым дажджавой вадой і ў туга падперазаным тым самым кажушку ляжаў сярод дзесяткаў трупаў у шынялях мышынага колеру ды ў касках са свастыкай. Разбек прайшоў на перадавой усю вайну, чатыры разы паранены...

«Фердынанда» падбіў «Зіс» з артдывізіёна, які паспеў заняць агнявыя за грэбенем шашы. Самаходка больш нікому не зрабіла шкоды, бо, як выявілася, артылерысты яе мелі толькі адзін снарад, які і выпусцілі па маёй «палкавушцы». Ды іастатнія немцы не мелі патронаў, інакш нам усім там было б нездабраваць.

25.II.45г.

Косць на плячы не пашкоджана – раненне лёгкае. У шпіталь ехаць адмовіўся (адтуль не заўсёды адсылаюць у сваю часць, з якой я так зжыўся!). Пакінулі мяне ў медсанбаце. Кантавацца тут без занятку нельга, залічылі штатным санітарам.

Сёння паклікаў мяне сам начальнік – капітан Копысаў – ды спытаўся, ці знайду ў сабе сілы дапамагаць пры аперацыях. Не раздумваючы, я хірурга запэўніў ды пайшоў за ім у асобную палатку.

Збіраліся аперыраваць нейкага афіцэра і далі лямпу, каб свяціў. Копысаў ускрыў параненую брушыну, я зірнуў на сіняватыя кішкі, з якіх паваліла пара, і мне адразу зрабілася млосна, пачаў я падаць. На шчасце, сястра падхапіла на ляту газавую лямпу, стукнула мяне кірзачом ды праперла з палаткі.

Цэлы дзень сорамна – хоць ты праваліся скрозь зямлю.

27.II.45г.

Сёння давялося браць у рукі вінтоўкі, аўтаматы і нам, медыкам. А здарылася вось што.

Палаткі нашыя разбіты на палянцы, а перадавыя часці адышлі ад нас на захад кіламетраў за пятнаццаць ды занялі там абарону. Нават страляніны каторы дзень не чуваць.

У гушчары недалёка ад палатак чатыры немцы здаліся ў палон сяржанту з нашага гаспадарчага ўзвода. Восем раз паранены і кантужаны сяржант у медыкаў служыў нядаўна. Убачыўшы немцаў, ён для настраху даў уверх чаргу з аўтамата, а тады паадбіраў у былых грозных ворагаў біклажкі са шнапсам і да адной добра прыклаўся. Праз якіх паўгадзіны ці менш галодны сяржант не мог ужо ісці.

Медсанбатаўская варта ўбачыла паміж дрэў фігуры немцаў, узняла на паляне трывогу. Хапілі мы што ў каго было пад рукой ды занялі кругавую абарону.

Неўзабаве перад вачыма насцярожаных урачоў і сясцёр з’явілася каларытная працэсія. На паляну выйшаў унтэр-афіцэр.

Убачыўшы медыкаў, унтэр-афіцэр яшчэ здалёк нам закрычаў:

– Не страляць! Не страляць, гальт!.. Ніхт шысен, ніхт шысен! Пан сяржант узяў нас у палон! Дзе рускі палон?

А вечарам двум з гэтых немцау Копысаў ампутаваў пальцы ног. Адмарожаныя. Палонным пагражала гангрэна. Самае дзіўнае: усе апошнія дні не было мінусавай тэмпературы. Цяпер разумею, што азначае “застудзіць” што-небудзь.

28.II.45г.

Палонныя ад наркозу ачунялі. На фронце зацішша, работы ў нас зусім мала. Урачы і медсёстры разгаварыліся з немцамі – я за перакладчыка. Просяць унтэр-афіцэра расказаць яшчэ раз, як «пан сяржант» браў іх у палон. Той на поўным сур’ёзе і вельмі ахвотна выконвае іх просьбу. Медыкі рагочуць. Тады пачынаюць прасіць зноў...

Копысаў успомніў нечым падобны выпадак з-пад Старой Русы.

Тады лютаваў мароз і завіруха. У зямлянку ўвялі гітлераўца. Ён адбіўся ад сваіх, заблудзіўся ды трапіў у нашыя акопы. Захутаны ў жаночую хустку, увесь заінелы, з ледзяшом пад носам, ну – дакладна копія фігуры таго фрыца, што малююць на карыкатурных плакатах.

Збегліся салдаты, разглядаюць жывога ворага, рагочуць. У гітлераўца таксама, мабыць, сумленне нячыстае, і ён выдатна разумее, што шчыры смех ворагаў – яго адзіны покуль што ратунак, таму ўсё цвердзіць: «Гітлер капут! Гітлер шансэ! Алес – капут!.. Шталін гу-ут! Москаў гу-ут!..»

І яшчэ больш стараецца паказаць, як замёрз. Крэкча, не хавае твару, ахвотна пазіруе фотакарэспандэнтам, якія папрыбягалі са штабоў.

Ад цеплыні ў зямлянцы лядзяш раптам адрываецца ды падае. Гітлеравец з роспаччу падымае яго з зямлі і… стараецца прыклеіць на ранейшае месца, а ён, як на

тое, не прыліпае.

15.IV.45г.

Батарэя доўга практыкавалася на возеры (у раёне Мантэля) у фарсіраванні воднай перашкоды. Я прыбыў у яе, калі наш полк займеў ужо гатовы плацдарм за Одэрам. Плацдарм зусім маленькі – кіламетры два на тры. Рыхтуецца нашае наступленне. У цеснаце сабралася велізарная маса войск ды закапалася ў зямлю.

«Уся Расія за Одэрам!» – кажа Ісаеў. (З лячэння вярнуліся мы разам.)

Нашая гаспадарка акапалася за дамбай ракі, гарматы – у ляску. Днём артабстрэл з боку немцаў. Ноччу плацдарм прашываюць са свістам кулі з нямецкіх акопаў, а гарматы чамусьці маўчаць.

Усё гатова. Агнявыя выкапаныя і замаскіраваныя. Капаем ровікі. Я покуль што знаходжуся ў рэзерве за дамбай – у Яроменкі (другі старшына ў нашай батарэі), толькі дапамагаю артылерыстам капаць. Але ж як у гістарычныя дні быць у абозе? Ніколі. Прашуся ў Кучэрына на перадавую. Камбат ахвотна пускае.

Я зноў наводчык, цяпер – у сяржанта Марозава.

Падвалаклі снарады. Закацілі гарматы на агнявыя. Вось-вось пачнецца.

16. IV.45г. [3]

Усё даўно гатова. Днее. 5 гадзін 00. Чакаем...

Нічога. Мяне разбірае хваляванне – не магу знайсці сабе месца.

6-00. Нічога.

7-00. Нічога.

8-00. Невыразны загад страляць.

З тылу грымнулі цяжкія. Мне здалося: надта рэдка для генеральнай артпадрыхтоўкі, якую так усе чакалі. Пачынаю біць і я са сваёй «палкавушкі». Восем снарадаў і каманда – адставіць.

Выяўляецца, гэта – пяцімінутны артналёт. Усяго – разведка боем.

Пяхота пайшла. Пякельны кулямётна-ружэйны агонь сячэ па пехацінцах. Падаюць забітыя.

Ліха ведае што за вайна!

Правае крыло траншэй – нашае. Выразна відаць, як пехацінцы валакуцца ўжо ў другую лінію праціўніка. З агнявой першай лініі злева б’е па нас снайпер. Гад, не дае падняць і галавы. Самаходка там ва ўпор расстрэльвае першую лінію нямецкіх траншэй. Пацешна глядзець, як яна б’е – снарад за снарадам, снарад за снарадам, апусціўшы хобат гарматы, бытта ў калодзеж...

Панцэрфаустамі запалілі некалькі нашых самаходак. Дзіва, гараць, як факелы, затым – выбух! І ўжо высока-высока над машынамі – толькі камякі чорна-смалістага дыму з усечанымі конусамі. А ў ёй жа былі жывыя хлопцы – дакладна такі самы разлік, як і ў маёй гармаце, – шэсць-восем чалавек, і каля машыны зараз ніхто нават не варушыцца. Усё гэта называецца – толькі разведка боем.

Унь – брыдуць абгарэлыя...

Раптам нямецкая міна 120 м/м смаліць у мой лафет. Гармата імгненна выведзена са строю: асколкамі разбураны рулі павароту, разбітая панарама. Патапенка (ён – замест Хілько) паранены – якраз выглядваў з ровіка. Маё шчасце, што я ў тую хвіліну выйшаў за агнявую (бытта мяне хто адагнаў), інакш – трапіў бы дакладна ў эпіцэнтр выбуху, а стодваццаціміліметровая, ведаю, як ірве!..

Вось табе і на – другая гармата!

Потым пакорна і смірна сяджу ў ровіку ды цешуся, што жывы. Асколак каля галавы (над галавой) ударыў у дошку – толькі абдало трэскамі. Асколак шырокі – як далонь, на ляту вуркацеў, бытта выбіраючы месца, куды ўлупіць.

Вечарам пераязджаем у другія траншэі немцаў. Я з Марозавым дапамагаем хлопцам ладаваць снарады. На цэлую ноч работы. ІІрацуем усе, як апантаныя, але адчуваем надзвычайную асалоду: немцам неўзабаве канец, і гэта ўжо напэўна!

І7.IV.45г.

Камбат папёр нас закопвацца глыбей у зямлю. Пару мінут – і загад выкананы. Цяпер толькі мая гармата сіратліва тырчыць на віду – карысці з яе зараз ніякай. Вось-вось генеральная артпадрыхтоўка. Паесці не паспелі.

5-00. Яшчэ ноч і першы залп – недзе з глыбокага тылу. За ім – другі, трэці, чацвёрты, пяты, ды ўсё мацнейшыя і мацнейшыя.

Спачатку забіваюся на самае дно ячэйкі. Але ж надта цікава. Асцярожна выглядаю з-за бруствера.

Перада мной – велічнае відовішча і дэманстрацыя магутнасці нашай зброі. Навокал, як у казцы, – усплёскі размаітых агнёў. Іх – сотні, тысячы, і кожны выбух выглядае па-свойму. Асобных выбухаў не разабраць, пануе суцэльны гуд, бытта прарваўся вадаспад цяжкіх і агністых камянёў. Толькі па ўдарах снарадаў у зямлю ды па тым, як прасядае грунт, можна адрозніць цяжкі калібр ад лёгкага.

Агонь! Агонь! Агонь!..

А ўжо цалкам аглух. Здаецца, гэтаму віску, стогнам, свісту, выбухам, грукату і ліха ведае якім яшчэ гукам не будзе і канца-краю.

Бачу: стрэлілі промнямі пражэктары ў напрамку праціўніка. Ага, зенітчыкі асвятляюць шлях нашым

танкам. Танкі адзін за адным, па два, па тры, па пяць… валяць і валяць, як ахапіць вокам. Агортвае мяне такі шалёны ўздым радасці, што ўстаю ва ўвесь рост.

Ад праціўніка на гэты раз – аніякай рэакцыі. Мабыць, там і жывой душы не засталося – бытта ўсе адразу вымерлі.

Святлее, а танкі ідуць.

Развіднела ўжо цалкам, танкі ўсё ідуць! ідуць! ідуць і ідуць!

Пяхота рушыла ўперад без супраціўлення (праціўніка). Аднак у нас Іваніцкага, Ільянкова, Плюхіна і Кіртычнага параніла, а, здаецца, ад немцаў ніхто і не страляў. Сваімі недалётамі іх паразіла?.. Хлопцы накіраваліся за Одэр. Скрозь парахавы дым выглядае сонца. Устае бадзёра вясенні дзень, бытта нічога і не здарылася. Яшчэ збіваючыся, але ўжо спрабуе свой голас жаўрук...

Бой ужо далёка. Камбат пасылае мяне наводчыкам да Разбекава. Тупаю і надта дзіўлюся: а пад Флатау камандзірам маёй гарматы быў Разбек.

Даганяю нейкую санчасць. Заблукаўся, але і медыкі нічога не ведаюць. Цікавы малюнак: па цэнтральнай дарозе валіць вялізная маса нашых войск. Злева і справа на рухомыя нашыя калоны выганяюць адзіночных кулямётчыкаў – нямецкіх салдат. Яны адурэлі зусім. Кідаюцца туды, сюды, а іншыя з паднятымі рукамі кіруюць да нас, але мала хто на іх звяртае ўвагу.

Ноч спалі ў сасонніку спакойна.

18.IV.45г.

З раніцы перайшлі ў першы эшалон. Наперадзе, паралельна Одэру, рака (Альдотэр). Перад ракой – хутар. Там немцы. Б’ю фугаснымі. Немцы з хутара бягуць. Б’ю па іх асколачнымі.

Цікава[4].

Едзем да рэчкі. Чатыры гадзіны ляжым на шашы – страляем па танках. Некалькі машын гарацьь – хто з нас іх падбіў, паспрабуй разбярыся.

Пад’язджаем да рэчкі Пераправа.

Па той бок рэчкі Агнявая.

Наступленне. Пяхота пайшла...

Ага, унь дзе “прамушка” іхняя, якая па нас лупіла! Пасылаю шэсць снарадаў.

Накры-ыў-ў!!!

Маёнтак. Агнявыя перад палянай. Агнявыя – нямецкія, фрыцы пакінулі паляну гадзіну таму. Унь валяецца акрываўлены папяровы бінт, панікеліраваныя нажнічкі, пярэстая плашч-палатка, некалькі «панцырфаустаў». Нажнічкі піхаю сабе ў сумку, бяру лапатку, выкідваю бінты, падганяю ровікі пад свой густ. Устанаўліваем гармату.

Паляну раптам перасякае зноў рота фрыцаў у стракатых плашч-палатках. З усяе батарэі толькі я паспяваю паставіць гармату на агнявую. Пакуль круціў рычагі ствала, паспеў заўважыць: параніла ў жывот малодшага лейтэнанта, камандзіра нашага ўзвода. Шкада хлапца. Культурны быў чалавек, справядлівы, добры – ленінградзец. Не паспеў запомніць яго прозвішча...

Ствол наведзены. Немцы ўсё бягуць, быццам спецыяльна высыпалі перад маёй гарматай. Бяру прыцэл – пералёт! Другі снарад – міма! Трэці – у самую гушчу. На вачах батальёнаў пяхоты выбух (асколачнага снарада) зноў падымае немцаў у паветра...

Усе рагочуць. Радасна на душы – герой, куды там!

Рухаемся далей. Танкі выходзяць на аператыўную прастору. Абарона на гары перад чыгункай, дзе нас, напэўна, зменяць ды адвядуць у другі эшалон.

20.IV. 45г.

Мы ў тыле.

Голімся, мыемся, чысцім вопратку і абутак. Драім гармату. Апавядаем, выхваляемся, жартуем, пішам пісьмы, спім. Нечаканасць: немцы наляцелі!

Аднекуль вырваліся два іхнія знішчальнікі (чорныя, вёрткія!). Носяцца надта высока, а ўсе дзівяцца: з таго свету яны, ці што? За адным і другім неўзабаве вырастаюць чорныя шлейфы (здаецца, і зеніткі мала стралялі!), самалёцікі апісваюць на глыбокім і сінім небе вялізную дугу і на гарызонце ўразаюцца ў лес. Во, гэта вам за сорак першы, атрымлівайце!..

21.IV-45г.

Ідзём далей. Насустрач крочаць немцы здавацца ў палон – у касках, з ранцамі. За кюветамі ляжаць параненыя, але ніхто імі не цікавіцца. Навокал, як стол, раўніна. Зямля, відаць, ураджайная, зводдаль цагляныя домікі з дахоўкай маркоўнага колеру – як у Заходняй Польшчы. Ад Берліна, кажуць, усяго дваццаць кіламетраў. Проста не магу гэтаму паверыць. Гм, і праўда, самае цяжкае – пачатак.

Выклікае камбат. Мяне прадставілі да звання Героя Савецкага Саюза (і на яго пакінула ўражанне сцэнка, як я клаў снарады ў гушчу немцаў, калі перасякалі паляны!). А мне не верыцца, каб з прадстаўлення гэтага нешта выйшла. «Заходнік», Штутгоф. Апавядаю камбату пра выпадак з начальнікам разведкі дывізіі – капітанам Бойчанкам. Кучэрын супакойвае. У душы з ім усё не згаджаюся. Ды і мала маю яшчэ заслуг. У батарэі я, напрыклад, у параўнанні з сяржантам Марозавым – навабранец, без году тыдзень.

22.IV.45г.

Берлін. Вось ён – нарэшце!!!

Кідаюцца ў вочы тысячы белых прасцін. Яны звісаюць з вокнаў, балконаў, дзвярэй, дахаў, слупоў, будак і,

здаецца, што нават – з неба. Гэтыя прасціны трэба так разумець: немцы канчаткова здаюцца. Наперадзе грукат артылерыі, слабая перастрэлка. Уразаецца ў вочы вулічная сцэнка. Ля піўной палаткі – загарэлы, але і брудны, узлахмачаны наш салдат з бутэлькай. Закінуўшы галаву ў неба, баец, забыўшыся пра ўсё на свеце, проста з рыльца каўтае піва. Збоку пакорна стаіць палонны немец, адкаркоўвае наступную бутэльку і паслужліва салдату падае...

26.IV.45г. Чацвёрты дзень у Берліне. Раніцой пачалі мяняць пазіцыі. Вока ў вока сутыкнуўся з камандзірам палка. На мне – ладная і цёплая куртачка, дабытая ў медсанбаце пры лячэнні. Зінчанка[5] на мяне накрычаў: апрануты не на форме. Шкада курткі, давядзецца каму-небудзь аддаць...

Вяртаемся ў тыл дугой. Пераязджаем назад да канала – недалёка ад таго нямецкага лазарэта і тых заводаў (што я меў на ўвазе, цяпер не памятаю!). Па дарозе на світанні спаткаў Пааса (Яфіма) з мінамётнай[6]. Сфатаграфаваў мяне[7]. Паказвае гармонік, смехам бяру. Развітваемся.

Недалёка канал.

Нейкага доктара (немца) раскулачваем. Знайшлі ў склепе сотні бутэлек з рознымі этыкеткамі. Мне спадабалася шампанскае.

Агнявыя паміж дамоў. Месца адкрытае, а ў зямлю не надта закапаешся – акамянела.

Як звычайна, раблю ямку не па статуту – пад лафетам (каб кожны раз пад агнём не бегаць!). Каманда страляць. Выпускаю 30 фугасных і тры падкаліберныя. Падкаліберныя даюць прыгожае полымя, як ад «панцэрфауста», па сценах дамоў, куды страляю: там заселі нямецкія галаварэзы. Праціўнік агрызаецца густым навесным агнём з мінамётаў.

Спераду ад маёй гарматы праз крокаў дзесяць – глыбокі катлаван. Ён даўзёрны, агароджаны ад праціўніка

цаглянай сцяной. У ім сканцэнтраваўся батальён пяхоты перад атакай – чакаюць, калі скончыцца наш артналёт. Злева і справа ад мяне, узнімаючы вялізныя хмары пылу, даюць агонь «Т-34». Танкісты таксама на віду, але ім што – яны за бранёй...

Заданне выканаў. Снарадаў больш няма. Вырашаю: у катлаване будзе бяспечней, няма чаго тырчаць пад кулямі.

Клічу свой разлік, ды імчым да пяхоты. Сядзім разам з ёю доўга. Настаюць ракавыя 13 гадзін 11 хвілін.

Пяхота ў катлаване ўзнімаецца, каб ісці на зыходныя, у яе неўзабаве атака. Мушу ўстаць, бо растопчуць, як жабу. Тырчу фрэнтам ля цяглянай сцяны.

Тут гэта і здарылася.

Ззаду мяне, на скошанай сценцы катлавана, на ўзроўні маіх грудзей раптам выбухае пяхотная міна калібру 82 м/м. Адчуваю ў спіну страшэнны ўдар. Мяне з сілай шпурляе на камяністае дно жыватом уніз. Каска змякчыла ўдар тварам у пясок. Розум застаецца ясны, як ніколі. Ніжэй паясніцы – амярцвела цела, не адчуваю і ног. Навокал крыкі параненых пехацінцаў. Чуваць, як лямантуе наш Разбекаў:

«Перавяжы-ы! Нічога не ба-ачу!..»

«А мне, – думаю са смяротным жахам, – ужо нічога не трэба, канец!»

Украінец-наводчык з другога ўзвода рве індывідуальныя пакеты ды перавязвае камандзіра гарматы. І тут спахопліваюся: магу варушыць пальцамі ног!

«Ага, значыць, не ўсё страчана?!.»

Заматаўшы Разбекава, украінец падлятае да мяне. З маёй жа сумкі выхоплівае пакеты і спрабуе перавязаць, але робіць гэта чамусьці няўпэўнена. Пытаю, што ён там бачыць. Маўчыць. Затым пачынае супакойваць. Я да яго са злосцю: што ты зубы загаворваеш, хутчэй

кажы праўду! Вінавата гаворыць, што ў паясніцы і на баку вялікія бачыць раны, пакетаў трэба штук шэсць.

«Абматай хоць як!» – крычу.

Устаю сам і кірую ў перавязачны пункт. Адчуваю, як у рану засмоктвае паветра. Ага, кранула лёгкае! Дзірку на баку затыкаю кулаком.

З санроты вяртаюся зноў да гарматы, каб у санбат ісці разам з іншымі. Валакуць у павозку Разбекава, ён лямантуе, але паводзіны яго выглядаюць на сімуляцыю. На плашч-палатцы нясуць параненага Дубава. Садзяць нас трох на фурманку. Збягаюцца ўсе батарэйцы. Хлопцы, кранутыя да слёз, перажываюць за нас, што праз які дзень-два і вайне канец. А мы?.. Найбольш уражаны Задняявуліца. Прапануе гарачай стравы – пад’ехала кухня. Толькі цяпер заўважаю: а наш старшына, мабыць, мой аднагодак, і толькі бываласць робіць яго такім салідным...

Такое адчуванне, бытта развітваемся назаўсёды. Што значыць франтавая дружба.

Прыязджаем у санбат.

Аперацыя пад навакаінавай анестэзіяй. Зашываюць нейкі «пнеўматоракс» [8]. У лёгкіх асколкі, але рэнтген толькі пакажа, колькі іх там. Чуваць, што хірург робіць у мяне на плячах, але мяне агортвае поўная абыякавасць. Санітары-гіцлі хапнулі з рукі гадзіннік – падарунак камбата Кучэрына, а мне ўсё роўна.

21.VII 15.

Доўга не пісаў – выкараскваўся з таго свету. Сёння зноў дабраўся да папер. Дзіва, ад перажытага – нават почырк змяніўся. Ого!

З чаго тут пачаць? Мабыць, з таго, на чым мінулы раз скончыў.

Падзеі, што адбыліся са мной пасля аперацыі, памятаю цьмяна — як пасля бою. Хтосьці мяне яшчэ не раз

трымаў за рукі і ногі, рэзаў, бандажаваў ды зноў адзяваў. Потым некуды вязлі, каб і на новым месцы разматваць бінты і лезці ў раны. Сярод гэтага болю, невыразных і надта пераблытаных падзей менш-больш запала ў памяць адно: старшына Задняявуліца знайшоў мяне і ў шпіталі: прынёс ад бацькоў пісьмо ды падарунак ад батарэйцаў.

Вось я сяджу перад Задняйвуліцай, абкладзены падушкамі, але не магу чалавеку падзякаваць. нават усмешкай — так цяжка сцягнуць мускулы твару. Трымаючы распячатаны канверт, пазіраю то на старшыну, то на фота мамы з горда ўзнятай галавой: на грудзях у яе — новенькая партызанская медалька, пра якую піша дарагімі мне крывулькамі са старамоднымі «яцямі»...

Затым зноў правал памяці.

Прыйшоў да сябе і не магу зразумець, дзе я. За акном мільгаюць якіясьці агеньчыкі ды адбываецца штосьці незразумелае. Насцярожваюся. Квадратовы кавалачак начнога неба пранізваюць тысячы рознакаляровых зорачак, у якіх я адразу разлічыў снарады мелкакаліберных зенітак, трасіруючых куль з вінтовак і кулямётаў, На вуліцы ішла суцэльная траскатня стрэлаў... !

Толькі ў адным выпадку армія можа сабе дазволіць так бяздумна расстрэльваць боепрыпасы — калі яны больш непатрэбныя. Канец вайне! І мне раптам захацелася выскачыць з аўтаматам на вуліцу ды выпусціць сваю радасць у неба.

Сёння прыбыло ад бацькоў непасрэдна ў шпіталь першае пісьмо. Нечакана знайшоўся Валодзька (брат). Ён таксама ў войску. Цяпер тое, што называецца «сямейныя справы», у мяне ў парадку. Маці будзе спакойная: жывы яе любімы сын[9]. Адыдзе і маё сэрца. Я ж брата мог прымусіць уцякаць са Штутгофа разам. А ў нас атрымалася па страшаўскім анекдоце. «Іван, сала хочаш?» – «А дзе яно?» – «А, не хочаш, то як сабе хочаш!» Брат уцякаць не надта адважваўся, я не

настойваў, баючыся браць на сябе адказнасць у выпадку, калі б трапілі немцам у лапы…

Другое. Ліст камбата да бацькоў пра тое, што мяне прадставілі да звання Героя Савецкага Саюза за баі на Одэры. Усё ж такі камбат слова сваё стрымаў. Але мала надзеі. «Заходнік» – падобна на тое, калі яўрэй у капіталістычнай краіне народзіцца яўрэем, і б’юць яго таму, што менавіта такім нарадзіўся вельмі неразумна. Сухая фармальнасць. А горш за ўсё – балюча. У чалавека ж не толькі косці, а і душа, а яна баліць. Аднак Кучэрын – малайчына, хай хоць бацькі парадуюцца.

І ўсё ж такі думаю змагацца. Акадэмія (ці інстытут) дыпламатычных зносін у Маскве, пра якую пішуць дзяўчаты (былыя падпольшчыцы з Беластока – Ліза Чапнік і Аня Руд), надта зацікавіла. Старанна вывучаю англійскую мову. Калі не зараз, то ў наступным годзе буду туды спрабаваць паступаць. Вучыцца там – сапраўды тое, што мне трэба. Атрымаў бы добрае развіццё (нават лепш, чым добрае!) – раз. Дарога ў будучыню – два. Вучоба без клопатаў пра матэрыяльны быт – тры. Ды і шмат чаго іншага. Напрыклад, там павінна быць надта цікава!

Адно не падабаецца – суровая дысцыпліна, бо ваеншчына мне і тут абрыдла.

Тэма канкурэнцыі і прадпрымальнасці ў капіталістычных краінах мяне займала яшчэ ў паходзе. Усяляк даводзіў сваім сябрам іх няправільные погляды. Вырашыў напісаць у «Красную звезду». Па-мойму, атрымалася някепска[10]. Усё ж такі не апускаю рукі. Думаю нават пісаць маленькія апавяданні з партызанскага жыцця-быцця ды паслаць у Саюз беларускіх пісьменнікаў. Галоўнае – з кожным днём раблюся мацнейшым. Хоць і з гумовым шлангам, праведзеным у плечы, і з бутэлечкай на баку, куды цячэ з яго непрыемная вадкасць, аднак я ўжо «хадзячы» і цераз плот з сябрамі выбіраюся часамі ў Познань[11]. Бываю ў заапарку. Аднойчы пранiклі нават у оперны тэатр[12]. На сабе мелі піжамы, і нас пусцілі адно на галёрку[13].

21.VII.45г. Вечарам.

Маю шмат сяброў ці – не? Здаецца – не.

Камбрыг М. Вайцяхоўскі? Недастаткова з ім знаёмы. Тых двух-трох месяцаў, якія мы бачыліся ў партызанах, зусім мала. Па-мойму, у Мікалая Калістратавіча недаверлівасць яшчэ крыху захавалася. А дакладней – няяснасць у адносінах да мяне. Валодзя Арцюх. Ці не расстралялі яго немцы ў Баранавічах? Цалкам мажліва: гадоў з дзесяць сядзеў у польскай турме за камунізм...

Валодзя Калеснік. Які ён цяпер? Чатыры гады таму быў цудоўны. Крыху недахопаў трэба аднесці на рахунак яго гадоў (яму ж было ўсяго 19!) [14]. Шкада, не магу завязаць з ім перапіскі.

Ці сустрэнемся яшчэ калі?

Барыс Хведар – наўрад ці спаткаю калі.

Эма Навумаўна (Залкінд) [15]. У маім жыцці адыграла ролю ледзь не маці. Дзе яна?

Марозаў Міша з батарэі – выдатны. Але яго жыццё кроіць на іншы лад. У яго няма дружбы для ідэі.

Яфім (Паас) – малайчына!

Ледзь не забыўся ўпісаць Зіну, але і яна – з маіх лепшых сяброў[16].

Самая галоўная покуль што ў мяне – Маруся (Ліза Чапнік) [17] са сваёй групай. Праўда, усе яны крыху рамантызуюць дружбу. Часам і фантазіруюць залішне. Увогуле, яны служаць станцыяй у маім жыцці, куды заязджаю адпачыць маральна ды набрацца свежай сілы, каб рухацца далей.

Астатнія сябры – так сабе сябры, адно для забавы, правядзення часу, абмену інфармацыяй.

Толькі што атрымаў пісьмо з Дзернякова. Пытанне Любы вырашана канчаткова. Яго, як і тады – з Веркай

Настусінай[18], вырашыла мама. За тое, што з грудзей маіх зваліўся такі цяжкі камень, я маме надта ўдзячны.

10.VIII.45г.

Атрымаў лісты з часці. У адзін дзень адразу – дванаццаць штук! Колькі радасці! Пісьмо прыйшло і ад Яфіма. Фатаграфію з баёў ураатаваў толькі адну – добра і гэта. Нечакана вайна з японцамі. Вельмі цікава. Па-мойму, нічога страшнага, Японія паддаецца.

Але галоўнае – атамная бомба, скінутая на Хірасіму і Нагасакі. Не магу спаць, так падзея мяне ўстрывожыла. Інфармацыя з польскіх газет, а ў нашых яшчэ няма.

17.VIII.45г.

Вайна з Японіяй як нечакана пачалася, так нечакана і скончылася. Фрыда – дачка начальніка нашага шпіталя – гаворыць, што я сапраўды разбіраюся ў палітыцы. З усяго шпіталя толькі адзін я прадбачыў хуткі канец. Усе панікавалі. Эх, як крыўдна! Маёр адзін гаварыў: ну, цяпер нам крышка, бо краіна абяскроўленая. Я стаў даводзіць іншае, мяне высмеялі. Маўляў, я – хітры «заходнік», так толькі прыкідваюся, а што думаю – ніхто не ведае.

Яфім піша аб узнагароджанні мяне ордэнам Айчыннай вайны II ступені. Нарэшце – хоць адзін! Яшчэ апісвае, як на зборы палка нампаліт апавядаў пра маё геройскае раненне (што ў ім геройскага – не ведаю. Прыляцела міна і накрыла!..).

Падручнік англійскай мовы праштудзіраваў грунтоўна – хоць экзамены здавай, а каму?

17.VIII.45г.

Быў на медкамісіі. Чакаю канчатковага рашэння.

Атрымаў пісьмо ад Васілеўскага (Лёні з Карэліч) [19]. Ісаеў, Іваніцкі, Пшанічнік – забітыя. Вельмі шкада. Не магу змірыцца – такія слаўныя хлопцы.

У Пазнанскім універсітэце, дзе змяшчаецца наш шпіталь, заходзіў да прафесара-фізіка. Пажылая полька, вельмі разумная і вучоная. Надта шкадую, што зазірнуў да яе так позна. Шмат цікавага расказала пра атам, чаго я і не ведаў. У сувязі з выбухам (Хірасіма, Нагасакі) тэма гэтая цяпер надта модная.

20.VIII.45г.

Са шпіталя мяне адпускаюць па чыстай – канец! Пастаралася, вядома, Фрыда. Крыху сорамна. Нездарма гавораць: не май сто рублёў, а май сто сяброў[20].

Сёння атрымліваю свой пакет дэмабілізаванага: шэсць метраў матэрыі, два кілаграмы мукі, два – цукру, грошы, хлеб і каўбасу на дарогу...




# Аляксей Карпюк

Нарадзіўся 14.04.1920 г. у вёсцы Страшава на Беласточчыне (цяпер Польшча) у сялянскай сям'і.

Скончыў два класы польскай гімназіі ў Вільні. У 1939-1941 гг. вучыўся ў Наваградскай педагагічнай навучальні. У гады нямецка-фашысцкай акупацыі ўваходзіў у склад падпольнай дыверсійнай групы. У час выканання дыверсіі на чыгунцы ў канцы 1942 г. быў арыштаваны і адпраўлены ў беластоцкую турму, а адтуль у канцлагер Штутгоф. Увосень 1943 г. уцёк з лагера і прыняў удзел у партызанскай барацьбе. У 1944 г. быў камандзірам партызанскага атрада імя К.Каліноўскага на Гарадзеншчыне. У 1944-1945 гг. служыў у Савецкай Арміі, удзельнічаў у баях на тэрыторыі Польшчы і Германіі. Двойчы паранены. Скончыў аддзяленне ангельскай мовы Гарадзенскага педагагічнага інстытута (1949). Працаваў загадчыкам Сапоцкінскага рана (1949-1951), дырэктарам Біскупцкай сямігадовай школы Ваўкавыскага раёна (1951-1953), у Гарадзенскім педінстытуце (1953-1955), у абласной газеце «Гродзенская праўда» (1955-1957), уласным карэспандэнтам газеты «Літаратура і мастацтва». У 1961 г. скончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве. З 1961 г. - загадчык агенцтва «Інтурыст» (Горадня), з 1965 г. - сакратар Гарадзенскага абласнога аддзялення СП БССР, з 1970

г. - упаўнаважаны УААП па вобласці, у 1977-1981 гг. - дырэктар Рэспубліканскага музея атэізму і гісторыі рэлігіі ў Горадні, з 1978 г. - зноў сакратар абласнога аддзялення СП БССР. Сябра СП СССР з 1953 г.

Узнагароджаны ордэнамі Чырвонага Сцяга, Айчыннай вайны I і II ступені, медалямі і залатым крыжам ордэна «Віртуці Мілітары» (Польшча).

Заслужаны работнік культуры БССР (1980).

Памёр 14.07.1992 г.

У друку дэбютаваў у 1953 г. аповесцю «У адным інстытуце». Выйшлі кнігі аповесцей і апавяданняў «Дзве сасны» (1958), «Данута» (1960), «Мая Гродзеншчына» (нарыс, 1960), «Пушчанская адысея» (1964), «Чаго мы варты» (бібліятэка газеты «Голас Радзімы», 1970), «След на зямлі: Скарбы і здабыткі маёй Гродзеншчыны» (1972), «Вершалінскі рай» (1974), «Ольга Корбут» (1977), «Свежая рыба» (1978), «Партрэт» (1983), «Сучасны канфлікт» (1985), «Дзве сястры» (казка, 1986), раман «Карані» (1988). Выйшлі Выбраныя творы ў 2 тамах у 1980 г. і 1990-1991 гг.

Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя І.Мележа (1986) за кнігу «Сучасны канфлікт».

1. 150-я Ідрыцкая стралковая дывізія (тут і далей тлумачэнні аўтара)↵

2. Спаткаўся я з гэтым чалавекам другі раз у жыцці, калі прымалі мяне на работу загадчыкам агенцтва «Інтурыст» у Гродна (1961). В. К. Бойчанка тады ўзначальваў Усесаюзнае ўпраўленне «Інтурыст» у Маскве.↵

3. Відаць, на нашым участку 1-га Беларускага фронту шырокавядомыя падзеі разгарнуліся на суткі пазней, чым на іншых. А мажліва, я збіўся ў датах – усё ж такі быў толькі салдатам і значэння для мяне яны вялікага не мелі.↵

4. З-за ляноты не апісаў важнае здарэнне. Нават цяпер памятаю, як перад гарматай выскачыла вялікая група немцаў. Удалося яе лёгка разграміць. Біў прамой наводкай. Выбухамі снарадаў гітлераўцаў высока падкідвала.↵

5. Ф. М. Зінчанка – камандзір 756-га стралковага палка. Потым стаў камендантам рэйхстага. Зараз – пенсіянер, жыве ў Чаркаску.↵

6. З Яфімам Паасам у Гродне мяне разам прызывалі ў армію. Паас потым скончыў у Варшаве архітэктурны інстытут, адбудоўваў Старэ Мяста.↵

7. Размова пра здымак, дзе ля гарматы граю на губным гармоніку. Ён ды фота са шпіталя –толькі і засталіся ў мяне з арміі.↵

8. Што такое гэта, потым я пазнаў на практыцы. Колькі разоў мне гэты самы «пнеўматоракс» зашывалі. І не толькі яго. Рабілі рэзекцыю рэбраў, пералівалі кроў, унутрывеннае…↵

9. У мяне было ўражанне, бытта мама брата любіць больш, і я надта раўнаваў.↵

10. Захавалася копія таго артыкула. Перачытваючы матэрыял, цяпер мне няёмка – ён такі наіўны.↵

11. Вайсковы шпіталь знаходзіўся ў Познані – супроць заапарка.

12. Вядома, не пусцілі б і туды, але сярод нас знайшліся байцы, якія ў лютым тэатр бралі штурмамЮ і гэты аргумент білецёркаў пераканаў.

13. Памятаю, ішла опера Манюшкі. Да таго дня я надта любіў песню – «Ой, Калі-іно, ой, еды-ыно, дзе-евчыно-о моя-а!..» Там са здзіўленнем даведаўся, што яна з оперы «Галька» і называецца не проста песня, а – арыя Янэка.

14. З Уладзімірам Андрэевічам Калеснікам мы пачыналі вучыцца ў Віленскай бел. Гімназіі, затым – у Навагрудскім педвучылішчы (1939-1941 гг.)

15. Выкладчыца Навагрудскага вучылішча. Восенню 1940 г. Дамаглася на педсавеце, і мяне з I перавялі на II курс педвучылішча.

16. Я тады яшчэ не ведаў, што навагрудчанку Зіну Маслоўскую немцы расстралялі. З партызан паслалі ёй пісьмо, а гітлераўцы яго перахапілі.

17. Былы кіраўнік антыфашысцкага камітэта ў Беластоку. Сёння – дацэнт педінстытута ў Разані

18. гл. Падзеі ў дакументальнай аповесці «Пушчанская адысея»

19. Замкавы маёй гарматы. Васілеўскі Леанід Іванавіч зараз жыве ў Карэлічах, працуе ў сацстраху.

20. Яшчэ быў недалечаны. Рознымі праўдамі і няпраўдамі выкленчыў выпіску, каб паступіць у інстытут, не страціўшы каляндарнага года.

Падрыхтаванае на падставе: Аляксей Карпюк, Сучасны канфлікт. Аповесць, Франтавы дзённік, Не зусім гродзенскія гісторыі, — Мінск: Мастацкая літаратура, 1985. — 317 с.

У цэнтры аповесці, якая дала назву ўсёй кнізе,— сям'я інтэлігентаў. Ён — вучоны, яна — настаўніца. У мужа і жонкі дастатак, дабрабыт, разумныя, дагледжаныя дзеці. Але нешта адбылося, недзе парушылася гармонія ва ўзаемаадносінах, і гэта прыводзіць да непапраўнай сямейнай драмы. У другой частцы кнігі — ваенны дзённік пісьменніка, апавяданні, эсэ, замалёўкі, успаміны пра людзей, якія пакінулі ў яго сэрцы незабыўны след.